# БЯСПРЫКЛАДНЫ Ў ГІСТОРЫІ ПАЛЁТ!

## Савецкі касманаўт Герман Цітоў на караблі „Усход-2“ зрабіў 17 абаротаў вакол Зямлі і праляцеў звыш 700 тысяч кіламетраў. Свет апладзіруе герою.

ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.

№ 62 (1596) | Аўторак, 8 жніўня 1961 года | Цана 4 кап.



### Касманаўт Г. С. ЦІТОЎ

Герман Сцяпанавіч Цітоў нарадзіўся ў 1935 годзе ў сяле Верхняе Жыліна, Касіхінскага раёна, Алтайскага края, у сям'і настаўніка сярэдняй школы. Па нацыянальнасці — рускі. У 1943 годзе ён паступіў у пачатковую школу пры калгасе «Майская раніца» Касіхінскага раёна, куды маці пераехала ў пачатку вайны.

У 1950 годзе ён скончыў сямігадовую школу сяла Палкоўнікава, Касіхінскага раёна, а затым Налабіхінскую сярэднюю школу гэтага ж раёна.

Г. С. Цітоў у 1949 годзе ўступіў у ВЛКСМ.

У 1957 годзе ён закончыў ваенна-авіяцыйнае вучылішча лётчыкаў па першаму разраду, здаўшы экзамены па тэхніцы пілаціравання на «выдатна».

Пасля заканчэння вучылішча Г. С. Цітоў быў накіраваны для праходжання службы ў Ленінградскую ваенную акругу. За поспехі ў вучэбна-баявой і палітычнай падрыхтоўцы і прыкладную воінскую дысцыпліну Ленінградскі абком ВЛКСМ узнагародзіў яго дзвюма граматамі.

Тав. Цітоў — кандыдат у члены КПСС.

Ён жанаты. Яго жонка — Тамара Васільеўна, 1937 года нараджэння.

Бацька — Сцяпан Паўлавіч, 1910 года нараджэння, выкладаў рускую мову і літаратуру, а потым нямецкую мову ў сямігадовай школе сяла Палкоўнікава, Алтайскага края. З 1961 года знаходзіцца на пенсіі. Маці — Аляксандра Міхайлаўна, 1914 года нараджэння.

## ПАВЕДАМЛЕННЕ ТАСС

6 жніўня 1961 года ў 9 гадзін маскоўскага часу ў Савецкім Саюзе зроблен новы запуск на арбіту спадарожніка Зямлі касмічнага карабля «Усход-2».

Карабель «Усход-2» пілатуецца грамадзянінам Савецкага Саюза лётчыкам-касманаўтам маёрам таварышам Цітовым Германам Сцяпанавічам.

Задачамі палёту з'яўляюцца:

— даследаванне ўплыву на чалавечы арганізм працяглага палёту па арбіце і спуску пасля на паверхню Зямлі;

— даследаванне працаздольнасці чалавека пры працяглым знаходжанні ва ўмовах бязважкасці.

Па папярэдніх дадзеных, карабель-спадарожнік выведзен на арбіту, блізкую да разліковай, з параметрамі:

— мінімальнае аддаленне ад паверхні Зямлі (у перыгеі) роўна 178 кіламетрам;

— максімальнае аддаленне (у апагеі) складае 257 кіламетраў;

— вугал нахілу арбіты да экватара 64 градусы 56 мінут.

Пачатковы перыяд абарачэння карабля-спадарожніка складае 88,6 мінуты. Вага касмічнага карабля-спадарожніка «Усход-2», без уліку вагі апошняй ступені ракеты-носьбіта, складае 4.731 кілаграм.

З лётчыкам-касманаўтам тав. Цітовым устаноўлена і падтрымліваецца двухбаковая радыёсувязь.

Лётчык-касманаўт вядзе свае перадачы на частотах 15,765 мегагерц, 20,006 мегагерц, 143,625 мегагерц.

На борце карабля ўстаноўлен таксама перадатчык «Сігнал», які працуе на частаце 19,995 мегагерц.

Бартавыя сістэмы, якія забяспечваюць жыццядзейнасць лётчыка-касманаўта, функцыяніруюць нармальна.

Самаадчуванне лётчыка-касманаўта таварыша Цітова Германа Сцяпанавіча добрае.

Палёт савецкага касмічнага карабля, якім кіруе чалавек, праходзіць паспяхова.

* * *

Палёт савецкага касмічнага карабля-спадарожніка «Усход-2» з касманаўтам таварышам Цітовым на борце праходзіць паспяхова, у адпаведнасці з праграмай. У сучасны момант касмічны карабель-спадарожнік робіць трэці абарот вакол Зямлі. З касманаўтам падтрымліваецца двухбаковая радыёсувязь на кароткіх і ультракароткіх хвалях.

Прынятыя тэлевізійныя адлюстраванні касманаўта, тэлеметрычная інфармацыя аб яго стане і аб кліматычных умовах у кабіне карабля-спадарожніка сведчаць аб нармальным праходжанні палёту касманаўта. Адчуванне таварыша Цітова выдатнае. Палётнае заданне выконваецца касманаўтам маёрам Цітовым у адпаведнасці з праграмай. Палёт у космасе працягваецца.

* * *

На другім абароце вакол Зямлі касманаўт маёр Цітоў з борта касмічнага карабля-спадарожніка «Усход-2» перадаў рад паведамленняў, якія сведчаць аб тым, што палёт праходзіць паспяхова.

Канструкцыя карабля-спадарожніка і яго абсталяванне працуюць нармальна.

Самаадчуванне таварыша Цітова вельмі добрае.

Двухбаковая радыётэлефонная сувязь з касманаўтам на ультракароткіх і кароткіх хвалях праходзіць добра.

Па тэлевізійных лініях з Зямлі вядзецца назіранне за касманаўтам і яго работай з прыборамі.

Пралятаючы над Афрыкай, маёр Цітоў з борта карабля-спадарожніка «Усход-2» перадаў прывітанне народам Афрыкі.

Тэлеметрычнымі вымярэннямі вядзецца кантроль за станам касманаўта і за работай абсталявання карабля. Па паказаннях прыбораў, стан касманаўта добры, частата пульса 88 удараў у мінуту, частата дыхання 15—18 у мінуту. Унутры кабіны падтрымліваюцца нармальныя ўмовы для жыццядзейнасці.

У 11 гадзін 48 мінут (маскоўскі час) карабель-спадарожнік «Усход-2» закончыў другі абарот вакол Зямлі і пачаў трэці абарот.

У 15 гадзін па маскоўскаму часу савецкі касмічны карабель-спадарожнік «Усход-2» закончыў свой чацвёрты абарот вакол Зямлі.

У час трэцяга абароту, пралятаючы над Еўропай, маёр Цітоў перадаў з борта карабля-спадарожніка прывітанне народам Савецкага Саюза і Еўропы.

У канцы трэцяга вітка, з 12 гадзін 30 мінут да 13 гадзін, таварыш Цітоў абедаў. Абед касманаўта складаўся з трох страў. У канцы абеда касманаўт перадаў: «Паабедаў, самаадчуванне вельмі добрае».

(Заканчэнне на 2-й стар.)

## ПЕРШЫ РАПАРТ РАДЗІМЕ

Пралятаючы над тэрыторыяй Савецкага Саюза ў 10 гадзін 38 мінут маскоўскага часу, лётчык-касманаўт тав. Цітоў Герман Сцяпанавіч перадаў прывітанне Цэнтральнаму Камітэту КПСС, Савецкаму ўраду і асабіста Мікіту Сяргеевічу Хрушчову:

МАСКВА, КРЭМЛЬ

Дакладваю з борта савецкага касмічнага карабля «Усход-2» ЦК КПСС, Савецкаму ўраду і асабіста Мікіту Сяргеевічу Хрушчову: палёт савецкага касмічнага карабля «Усход-2» праходзіць паспяхова. Усе сістэмы карабля функцыяніруюць нармальна. Самаадчуванне добрае. Прашу перадаць сардэчнае прывітанне ўсяму савецкаму народу.

Касманаўт ЦІТОЎ.

---

Борт касмічнага карабля-спадарожніка «Усход-2»

## Таварышу Г. С. ЦІТОВУ

*Дарагі Герман Сцяпанавіч!*

*Толькі што атрымаў Вашу тэлеграму з борта касмічнага карабля-спадарожніка „Усход-2“.*

*Усе савецкія людзі бясконца рады паспяховаму палёту, ганарацца Вамі. Сардэчна віншую Вас, вернага сына нашай Радзімы, слаўнай Камуністычнай партыі. Чакаем Вашага вяртання на Зямлю.*

*Абдымаю.* *М. ХРУШЧОЎ.*

6 жніўня 1961 года

## ДА КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ І НАРОДАЎ САВЕЦКАГА САЮЗА!

## ДА НАРОДАЎ І ЎРАДАЎ УСІХ КРАІН!

## ДА ЎСЯГО ПРАГРЭСІЎНАГА ЧАЛАВЕЦТВА!

### Зварот Цэнтральнага Камітэта КПСС, Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР і ўрада Савецкага Саюза

Цэнтральны Камітэт КПСС, Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР, урад Савецкага Саюза з вялікай радасцю паведамляюць аб новай бяспрыкладнай перамозе савецкай навукі і тэхнікі — паспяховым палёце другога касмічнага карабля з чалавекам на борце.

6 жніўня 1961 года ў 9 гадзін па маскоўскаму часу магутнай савецкай ракетай на арбіту вакол Зямлі быў выведзены новы касмічны карабель-спадарожнік «Усход-2», пілатуемы лётчыкам-касманаўтам — грамадзянінам Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, камуністам, маёрам таварышам Цітовым Германам Сцяпанавічам.

Таварыш Цітоў паспяхова зрабіў 25-гадзінны палёт вакол Зямлі і пасля выканання намечанай праграмы паспяхова прызямліўся на тэрыторыі нашай Радзімы — Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Савецкі касмічны карабель-спадарожнік «Усход-2», кіруемы таварышам Цітовым, абляцеў больш як 17 разоў вакол зямнога шара, пераадолеўшы адлегласць звыш 700 тысяч кіламетраў, гэта значыць амаль роўную падвоенай адлегласці ад Зямлі да Месяца.

У гэтым подзвігу адлюстраваны новыя велізарныя дасягненні Савецкага Саюза, нашай навукі і тэхнікі, усёй народнай гаспадаркі — вялікія перавагі самага перадавога ў свеце сацыялістычнага грамадскага ладу.

Усе народы зямнога шара з велізарным натхненнем і захапленнем адзначылі першы палёт савецкага чалавека ў касмічную прастору. Выдатны палёт новага савецкага касманаўта паказвае, што недалёкі той час, калі касмічныя караблі, кіруемыя чалавекам, пракладуць міжпланетныя трасы да Месяца, Марса, Венеры. Перад чалавецтвам адкрываюцца шырокія перспектывы пакарэння касмічнай прасторы, палётаў да планет сонечнай сістэмы.

З пачуццём законнага гонару Цэнтральны Камітэт КПСС, Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР і ўрад Савецкага Саюза адзначаюць, што наша краіна, краіна перамогшага сацыялізма, упэўнена ідзе ў авангардзе чалавецтва ў справе выкарыстання дасягненняў навукі і тэхнікі на карысць народаў свету.

Другі касмічны палёт савецкага чалавека вакол Зямлі — гэта новае яркае пацвярджэнне вялікай магутнасці народа, які пабудаваў сацыялізм. Нашы дасягненні ў асваенні космасу не з'яўляюцца выпадковымі, яны адлюстроўваюць заканамернае шэсце пераможнага камунізма. Камунізм нястрымна ідзе ўперад. І няма такой сілы ў свеце, якая магла б перашкодзіць няўхільнаму руху чалавецтва да сваёй светлай будучыні.

Ворагі міру раздуваюць ваенную істэрыю. Гэтай істэрыі мы проціпастаўляем нашы велічныя планы камуністычнага будаўніцтва, нашу цвёрдую ўпэўненасць у сваіх сілах, у правільнасці шляху, указанага марксісцка-ленінскай навукай.

Усім людзям на зямлі вядомы планы і мэты нашай краіны. Яны выказаны ў праекце ўносімай на разгляд XXII з'езда КПСС новай Праграмы Камуністычнай партыі Савецкага Саюза — праграмы пабудовы камуністычнага грамадства. Камунізм выконвае гістарычную місію пазбаўлення ўсіх людзей ад сацыяльнай няроўнасці, ад усіх форм прыгнечання і эксплуатацыі, ад жахаў вайны і ўсталёўвае на зямлі мір, працу, свабоду, роўнасць і шчасце ўсіх народаў.

Усё ў імя чалавека! Усё на карысць чалавека! — вось наша вышэйшая мэта.

Касмічныя палёты савецкіх людзей знамянуюць сабой непахісную волю, непахіснае жаданне ўсяго савецкага народа да трывалага міру на ўсёй зямлі. Нашы дасягненні ў даследаванні космасу мы ставім на службу міру, навуковаму прагрэсу, на карысць усіх людзей нашай планеты.

Савецкі народ цвёрда верыць, што справа міру пераможа ва ўсім свеце. Мір пераможа, калі народы ўсіх краін будуць самаададана змагацца за яго ўмацаванне.

Мы заклікаем урады ўсіх краін, усіх людзей, незалежна ад расавай і нацыянальнай, ад сацыяльнай прыналежнасці і рэлігійных перакананняў, прыкласці ўсе сілы для забеспячэння трывалага міру на ўсёй зямлі.

Новая слаўная перамога нашай Радзімы натхняе ўсіх савецкіх людзей на яшчэ большыя подзвігі ў будаўніцтве камунізма!

Наперад да вялікіх перамог у імя міру, усеагульнага шчасця і прагрэсу чалавецтва!

ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ САВЕЦКАГА САЮЗА | ПРЭЗІДЫУМ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР | САВЕТ МІНІСТРАЎ САЮЗА ССР

## Усім вучоным, канструктарам, інжынерам, тэхнікам, рабочым, усім калектывам і арганізацыям, якія прымалі ўдзел у паспяховым ажыццяўленні новага касмічнага палёту чалавека на караблі-спадарожніку „Усход-2“

## Савецкаму касманаўту, які ажыццявіў 25-гадзінны палёт, таварышу Цітову Г.С.

Дарагія таварышы!

Сябры-суайчыннікі!

6 жніўня 1961 года наша Радзіма—Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік паспяхова ажыццявіла новы смелы крок на шляху асваення касмічнай прасторы.

На савецкім касмічным караблі-спадарожніку «Усход-2» лётчык-касманаўт, гераічны сын Камуністычнай партыі таварыш ЦІТОЎ Г. С. здзейсніў 25-гадзінны палёт у космасе, абляцеўшы нашу планету больш як 17 разоў.

Гэта велізарнейшая перамога нашай навукі і тэхнікі, яскравае праяўленне творчага генія савецкага народа, які ўпэўнена ідзе па шляху пабудовы камуністычнага грамадства.

Толькі народ, натхнёны вялікай праграмай пабудовы камунізма, кіруемы сваёй роднай Камуністычнай партыяй, здольны за такія кароткія тэрміны здзяйсняць подзвігі, аб якіх на працягу многіх стагоддзяў марылі лепшыя прадстаўнікі рускай і сусветнай навукі.

Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР і Савет Міністраў СССР ад імя нашай слаўнай Камуністычнай партыі, Савецкага ўрада, усіх народаў Савецкага Саюза горача віншуе вучоных, канструктараў, тэхнікаў, рабочых, усе калектывы і арганізацыі, якія прымалі ўдзел у стварэнні і падрыхтоўцы касмічнага карабля-спадарожніка «Усход-2» і паспяховым ажыццяўленні касмічнага палёту, з новай вялікай перамогай розуму і працы савецкага чалавека.

Ад усяго сэрца віншуем вас, дарагі наш таварыш Герман Сцяпанавіч Цітоў, з вялікім подзвігам — новым выдатным палётам у касмічную прастору.

Слава савецкім вучоным, канструктарам, інжынерам, тэхнікам і рабочым — пакарыцелям космасу!

Слава нашаму народу — народу-творцу, народу-пераможцу, які пракладвае пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі шлях да светлай будучыні ўсяго чалавецтва — камунізма!

Няхай жыве слаўная Камуністычная партыя Савецкага Саюза — натхніцель і арганізатар усіх перамог савецкага народа!

Няхай жыве камунізм!

ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ КПСС | ПРЭЗІДЫУМ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР | САВЕТ МІНІСТРАЎ САЮЗА ССР

